*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

**№ 465 • Сьнежань 1999 г.**
Год выд. 49

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

## АБАРАНІЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

Галоўная адметнасьць чарговага расейска-беларускага інтэграцыйнага праекту ў тым, што гаворка ідзе ужо не пра стварэньне «саюзу дзьвух дзяржаваў», а — саюзнай дзяржавы. І тое, што адзіную валюту, адзіны заканадаўчы ворган, як і іншыя атрыбуты гэтай «дзяржавы» запланавана стварыць ня сёньня і ня заўтра, а праз чатыры-пяць гадоў, не павінна супакойваць. Наадварот — гэтая доўгатэрміновасьць пацьвярджае сур'ёзнасьць намераў Крамля. Дарэчы, ужо цяпер фармуецца адзіная вайсковая група, агульная ж сыстэма супраць-паветранай абароны дзейнічае ня першы год.

Але — Беларусь ужо ня тая, што была дзесяць гадоў таму, калі толькі БНФ на чале зь Зянонам Пазьняком дамагалася незалежнасьці Бацькаўшчыны. Сёньня ідэя сувэрэнітэту не ставіцца пад сумнеў большасьцю дэмакратычных партыяў. Вядучыя апазыцыйныя лідары сыходзяцца на тым, што Беларусь павінна быць незалежнай краінай. Праблема у тым, што некаторыя дэмакраты, не засвоіўшы горкага ўроку 96 году (калі менавіта з дапамогай Масквы Лукашэнка зьдзейсьніў антыканстытуцыйны пераварот) — усё яшчэ спадзяюцца на «прагрэсыўных» расейскіх палітыкаў. Між тым, пад час апошняй інтэграцыйнай хвалі усе без выключэньня расейскія партыі, прадстаўленыя у Дзяржаўнай думе, падтрымалі расейска-беларускае аб'яднаньне. Паказальна і тое, што партыя Яўлінскага, які не адвяргаў ідэю інтэграцыі у прынцыпе, але не з лукашэнкаўскім рэжымам, — пасьля нядаўніх выбараў сталася самай нешматлікай фракцыяй у парляменце. Выбары ж, як вядома, ёсьць спосаб волевыяўленьня народу. Такім чынам, расейскі электарат выявіў імпэрскую мэнтальнасьць. У сьвядомасьці расейскіх выбаршчыкаў Беларусь існуе не як незалежная краіна, а як тэрыторыя, якая часова «адышла» і якую неабходна «вярнуць». Ну, а якімі мэтадамі Расея ўтрымоўвае народы — бачна на прыкладзе Чачні.

Як і раней, расейскі фактар застаецца адным з галоўных элемэнтаў беларускай палітыкі, які нацыянальна арыентаваная апазыцыя павінна ўлічваць у сваёй дзейнасьці.

Было б памылкова усе няўдачы апазыцыі сьпісваць на «зьнешняга ворага». Да гэтага часу непераадоленая хранічная хвароба дэмакратаў — апазыцыя распачынае акцыі, не маючы варыянтаў, ці то іншых плянаў, на выпадак няўдачы (прыклад — «альтэрнатыўныя» прэзыдэнцкія выбары, вынікам якіх, у значнай меры, стаў раскол БНФ). І тым ня менш — апазыцыя мужна трымаецца, нягледзячы на арышты, суды, штрафы, міліцэйскія дубінкі.

Між тым, палітыка зьнішчэньня ўсяго беларускага, якую Масква праводзіць з першага для прэзыдэнцтва Лукашэнкі, зрабілася, па сутнасьці, дзяржаўнай палітыкай. Сёньня кожны, хто размаўляе на вуліцах Менску па-беларуску, рызыкуе трапіць пад ОМОНаўскія дубінкі альбо пад кулакі расейскіх фашыстаў. Бацькі ня маюць магчымасьці даваць дзецям адукацыю на роднай беларускай мове ні ў сталіцы, ні ў правінцыі. Беларуская культура пазбаўленая дзяржаўнай падтрымкі, тым часам як з бюджэту выдаткоўваюцца вялізарныя сродкі на фінансаваньне расейскіх кінэматаграфічных ды іншых праектаў відавочна шавіністычнага зьместу. Нацыянальная інтэлегенцыя (пісьменьнікі, мастакі, навукоўцы, настаўнікі, лекары) кінуты ў жабрацтва. Такім чынам, пасьлядоўна ажыцьцяўляецца этап нацыянальнай дыскрымінацыі беларусаў, які з'яўляецца часткай расейскай палітыкі ліквідацыі дзяржаўнай незалежнасьці.

Палітыкі тым больш небясьпечнай, што адбываецца яна на фоне пасіўнасьці Захаду. Канечна, і ЗША, і эўрапейскія краіны (праз АБСЭ) заяўляюць і пра нелегітымнасьць Лукашэнкі пасьля 20 ліпеня, і пра парушэньне правоў чалавека. Аднак калі гаворка заходзіць пра незалежнасьць Беларусі, нацыянальна-этнічную дыскрымінацыю беларусаў... Яшчэ не даводзілася бачыць ніводнай заявы якога-небудзь эўрапейскага ўраду ці міждзяржаўнай арганізацыі (кшталту Эўрапарламэнту ці АБСЭ), у якой бы адназначна падтрымлівалася ідэя беларускай незалежнасьці. Толькі Дзярждэпартамант ЗША выказаў свой пагляд да беларуска-расейскай дамовы. Але без адказу застаецца зварот С. Шарэцкага да краінаў, якія выступілі гарантамі суверэнітэту Беларусі у адпаведнасьці з дамовай аб вывадзе ядзернай зброі з тэрыторыі краіны. Відаць, гэта — рэцыдыў наіўнай веры ў «дэмакратычную будучыню» Расеі, якая толькі цяпер пачынае саступаць месца цьвярозаму разуменьню сутнасьці крамлёўскай палітыкі. Перакананы, што прарваць блакаду вакол патрэбы абароны беларускай незалежнасьці будзе амаль немагчыма без дапамогі дыяспары, як арганізацыяў як у Эўропе, так і у ЗША і Канадзе.

На працягу дзесяцігодзьдзяў камуністычнага панаваньня у Беларусі дыяспара годна трымала бел-чырвона-белы сьцяг, «Пагоню», захоўвала вернасьць ідэям 25 Сакавіка — гэта паспрыяла вяртаньню нацыянальнай сімволікі у Беларусь.

Сёньня беларусы, якія маюць грамадзянства дэмакратычных краінаў і, адпаведна, магчымасьць уплыву на парламенты і урады, — могуць і абавязаныя раскрыць намеры расейскае палітыкі, абараніць беларускую незалежнасьць і дапамагчы ўваходу Беларусі у трэцяе тысячагодзьдзе як дэмакратычнай, прававай і, канечна, суверэннай краіны.

**Сяргей Навумчык,**
**намесьнік старшыні Рады БНР**

**Паважаныя суродзічы, чытачы й ахвярадаўцы!**

На парозе Новага году й Новага стагодзьдзя хочам пажадаць Вам усяго найлепшага ў далейшым жыцьці і працы ды падзякаваць Вам за дасюлешнюю дапамогу ў выхадзе «Беларуса». Газэта «Беларус» — найвыразьнейшы паказальнік беларускае зарганізаванасьці на чужыне й супольнае адданасьці справе дапамогі беларускаму народу на шляху да дэмакратыі й незалежнасьці. На працягу апошняга 10-годзьдзя «Беларус» меў сваіх чытачоў на Бацькаўшчыне й некалькі гадоў друкаваўся ў Менску дадатковым накладам.

Апошнім часам, на жаль, у сувязі са стратаю ахвярадаўцаў у выніку адыходу старэйшага пакаленьня ад актыўнага жыцьця, а таксама ў выніку пэўнага павышэньня коштаў выданьня, рэгулярнасьць выхаду газэты была парушана. Аднак, хочацца верыць, што гэта — зьява часовая, і цяжкасьці можна будзе перамагчы супольнымі намаганьнямі й далейшай ахвярнасьцю эміграцыйнага грамадзтва, якое апошнім часам заўважна папаўняецца новапрыбылымі суродзічамі.

Сёньня, як ніколі, на карту пастаўлена пытаньне незалежнасьці Беларусі й абароны беларускае нацыянальнае культуры. Падпісаная Лукашэнкам прадажная беларуска-расейская дамова пагражае стацца магілай беларускае дзяржаўнасьці. Праўда, яшчэ не запозна змагацца за вольную Беларусь, бо такою не хочуць бачыць шмат якія дзяржавы Захаду. Але самыя заходнія ўрады шмат чаго ня будуць рабіць, калі мы ня будзем да іх зьвяртацца па дапамогу. А каб раскіданыя па сьвеце беларусы маглі прасіць дапамогі, ім самым трэба быць добра паінфармаванымі. Вось тут і патрэбная свая газэта. Безь яе наша абаронная дзейнасьць будзе куды слабейшая.

Апрача гэтага мы мусім памятаць, што ўсякае беларускае пэрыядычнае выданьне на чужыне духова падтрымвае абаронцаў беларушчыны на Бацькаўшчыне, якія штодзённа рызыкуюць сваёй свабодай і нават жыцьцём. Спыненьне выхаду «Беларуса» (хоць такое цяжка сабе ўявіць) было-б маральным ударам па тых у Беларусі, каму дарагая справа Беларускага Вызваленьня й Адраджэньня. А дзеля гэтага да Вас гарачая просьба. Не пакідайце сваёй ахвярнасьцю «Беларуса», каб ня ўмёр.

Дзьвюхтысячны год — год эпахальны сваёй круглай лічбай. Але для Беларусі ён можа стацца яшчэ больш эпахальны — тым, што яе ўцягнуць назад у расейскую імпэрыю, у якой яна ўжо раз была і ледзь выжыла. Не дапусьцім-жа да гэтага супольнымі намаганьнямі, супольнай ахвярнасьцю, супольнай пасільнай падтрымкай «Беларуса», а праз гэта падтрымкай тых, хто носіць на сабе сінякі ад лукашэнкаўскіх паліцыйных палак, хто сядзіць у турмах.

Няха-жа далей гучыць голас «Беларуса» ў нашым нясьціхальным клічы, што ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

На довад свае салідарнасьці са змагарамі на Бацькаўшчыне адашлеце залучаны канвэрт з Вашым пасільным ахвяраваньнем на газэту «Беларус».

З глыбокай падзякай —

**Ад імя Рэдакцыі газэты «Беларус»**
Антон Шукелойць, старшыня Галоўнай Управы БАЗА

---

***ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫНЬНІКІ!***
***Мілыя сэрцу Маці-Беларусі дзеці!***

Зьвяртаемся да вас усіх, у якім бы куточку вы не жылі, да ўсёй Беларускай дыяспары ў сьвеце —

**З надыходзячым 2000 годам!**
**З Раством Хрыстовым!**
**З Калядамі!**

Няхай у дні гэтых вялікіх Сьвятаў, якія шанаваліся нашымі продкамі з пакаленьня ў пакаленьне, запануюць у вашых сэрцах пакой і ціхая радасьць, а душы напоўняцца цьвёрдай верай у нашу лепшую прышласьць.

Усе мы — дзеці адной маці — Беларусі. Кожнаму з нас яна па-свойму дарагая і любая. Дык будзем жа працаваць і жыць дзеля дабра і славы нашага краю з нястомнасьцю і самаадданасьцю. Толькі ад нас — беларусаў на Бацькаўшчыне і ў дыяспары, — ад нашай мудрасьці і самаахвярнасьці, цьвёрдасьці і рашучасьці залежаць дабро і мір, росквіт нашай Радзімы. У штодзённай і непрыкметнай працы нараджаюцца вялікія справы, гартуецца наша воля, расьце перакананасьць, што Беларусь перастрывае цяжкія часіны, што Магутны Бог дасьць ураджай нашым нівам, а беларускі народ займее лепшую долю.

Зычым вам, суродзічы і землякі, моцнага здароўя, шмат сіл для добрай і плённай працы, памыснасьці ва ўсіх справах, добрабыту вашым сем'ям.

Хай Новы год спраўдзіць усе вашы надзеі і задумы, а шчасьце і радасьць пасяляцца ў вашым доме.

Спадзяемся, што ў Новым, 2000-м годзе ўзмацнеюць нашы сувязі ды пашырыцца культурна-асьветніцкая дзейнасьць, што разам мы зробім шмат карыснага для Беларусі.

Ад імя Управы МГА ЗБС «Бацькаўшчына
Прэзыдэнт

**Радзім Гарэцкі**

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю $30 на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

# МЕНСК

## АДЛІГА НА ФОНЕ ІНТЭГРАЦЫІ

Незвычайна сьцюдзены лістапад зьмяніўся адліжным сьнежнем. У цяперашніх уладаў на Беларусі своя, надпрыродная, лёгіка: зь зімою прыйшло пацяпленьне атмасфэры — як фізічнай, так і палітычнай.

Пасьля стамбульскага саміту Лукашэнка неспадзявана палагаднеў: адпушчаны на волю асабісты Лукашэнкаў вораг — прэтэндэнт на прэзыдэнцкі пост у травеньскіх незалежных выбарах Міхал Чыгір; 8 сьнежня (дзень падпісаньня чарговай інтэграцыйнай паперкі) стыхійныя дэманстрацыі ў цэнтры гораду не разганяліся, а толькі стрымліваліся, а лік затрыманых вылічваўся дзесяткамі чалавек, а ня сотнямі, як пасьля «Маршу Свабоды» 17 кастрычніка.

На чарговы пакт Ельцына-Лукашэнкі беларускае грамадзтва адрэагавала досыць квола: незаангажаваныя ў палітыцы грамадзяне ўжо амаль перасталі заўважаць паведамленьні такога кшталту (колькі гэтых злучэньняў ужо было!), а ў патрыятычна настроенай супольнасьці выпрацаваўся своеасаблівы імунітэт на русыфікатарска-панславісцка-інтэграцыйны галас лукашэнкаўскай прапаганды.

## ЗЬНІКАЮЦЬ ЛЮДЗІ

Паводле зьвестак газэты «Здравый смысл» (29.09-6.10.99), у Беларусі летась зьніклі бязь вестак больш за 4000 чалавек, у сталіцы — 834.

## У МЕНСКУ — ГАНУКА

Сёлета ўпершыню ў Менску было заваўважана правядзеньне не зусім звычайнай акцыі: у цэнтры гораду разьяжджалі аўтамабілі з усталяванымі наверсе сямісьвечнікамі — сымбалямі Ганукі. Большасьць менчукоў наагул не разумее, што гэта такое: ужо зьнікла з твару зямлі тое пакаленьне беларусаў, што яшчэ ведалі, што гэта азначае, а саміх габрэяў у Менску засталося да дзесятка тысячаў.

## МЯСЬНІКОВІЧ У ФАВОРЫ?

З сьнежня пайшоў у адстаўку ненавісны тысячам беларусаў Іван Ціцянкоў — галоўны «заўхоз» (на савецкім слэнгу — загадчык гаспадаркі) краіны, кіраўнік паралегальнай фінансава-гаспадарчай імпэрыі Лукашэнкі, якая не была справаздачная нікому, апроч самога экс-прэзыдэнта.

Большасьць аналітыкаў сыходзяцца на тым, што падзеньне Вані, як зваліяго ў народзе, сьведчыць пра перамогу клана Міхала Мясьніковіча (кіраўніка адміністрацыі Лукашэнкі), зь якім ціцянкоўцы ўжо пару гадоў вялі зацятую барацьбу.

## ТАМАРА ВІНЬНІКАВА АКАЗАЛАСЯ З ЗАМЕЖЖА

У рэдакцыю менскае «Белорусской деловой газеты» патэлефанавала нядаўна, не называючы краіны ейнага прабываньня, Тамара Віньнікава, былы прэзыдэнт Нацыянальнага Банку Беларусі. Віньнікава была арыштаваная ў студзені 1999 году, адпакутавала бяз суда над ёй у турме, зь якое яе часова выпусьцілі па хваробе, а тады таямніча зьнікла. Былі чуткі пра магчымае забойства яе. Цяпер, як выявілася, Віньнікава за мяжой.

Яна мае намер заставацца актыўнай у беларускім палітычным жыцьці і напэўна шмат чаго раскажа пра махінацыі на вяршаліне ўлады. Тымчасам Віньнікава коратка расказала пра зьдзек над ёю ў часе прабываньня ў зьняволеньні; сказала таксама, што вялікія банкі рэспублікі займаюцца марнаваньнем грошай на патрэбы ўлады, абясьцэньваючы гэтым свае накапленьні.

Віньнікава сказала, што яна — чалавек рэлігійны, ходзіць штонядзелі ў царкву. У спэктар ейных палітычных перакананьняў уваходзіць абарона незалежнасьці Беларусі. Пра беларуска-расейскую саюзную дамову яна сказала, што гэта — вялікая пагроза незалежнасьці Беларусі, паколькі за гэтай дамовай стаяць расейскія алігархі й ваенныя.

## ВЫНІКІ ПЕРАПІСУ ЖЫХАРСТВА 1999 ГОДУ

Прэсавае агенцтва Белапан падало 15 сьнежня вынікі перапісу жыхарства рэспублікі ў лютым сёлета. Вось-жа ў Беларусі цяпер налічваецца 10 мільёнаў 45 тысячаў жыхароў, на 1076 тысячаў менш як было ў часе апошняга перепісу ў 1989 годзе.

У гарадох жыве 69% людзей.

Беларусы складаюць 81,2%, расейцы 11,4%, палякі 3,9%, украінцы 2,9%, габрэі 0,3%, іншыя 0,8%.

Беларускай мовай у сем'ях карыстаюцца 36,7% жыхароў, расейскай 62,8%.

У беларускім незалежным друку была крытыка перапісу, які праводзіўся з мэтай звужэньня сфэры ўжытку беларускае мовы — у духу лукашэнкаўскае русыфікацыйнае палітыкі.

**Зьм. Саўка**

## ФЭДЭРАЛЬНАЯ РАДА БЕЛАРУСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ У АЎСТРАЛІІ

# ЗВАРОТ

Спадар Міхаіл Кнайт, Прэзыдэнт
Спадар Санді Голловай, Галоўны Выканаўчы Службовы
С.А.К.А.Г. /Сіднэйскі Арганізацыйны Камітэт Алімпійскіх Гульняў/
235 Джонс Стрыт, Сіднэй, Новы Паўдзённы Уэльс, 2001, Аўстралія

Паважаныя сп. М. Кнайт і сп. С. Голловай

*Да афіцыяльнай прысутнасьці на «Алімпіядзе 2000» у Сіднэі — былога «Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь»*

Нам стала ведама, што спадар Аляксандар Лукашэнка — былы Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь, пляныне прысутнічаць на «Алімпіядзе 2000» у Сіднэі як афіцыяльны Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь. Згодна з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь 1994 году: «Выбары Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, разьдзел 4, артыкул 97, Прэзыдэнт выбіраецца непасрэдна народам Рэспублікі Беларусь. Тэрмін паўнамоцтваў Прэзыдэнта пяць гадоў». Будучы выбраным на пасаду Прэзыдэнта ў 1994 годзе, згодна з Канстытуцыяй, яго кадэнцыя закончылася 22.7.1999-ым годзе. Згодна з законам Канстытуцыі 16.5.1999-га года ў Рэспубліцы Беларусь адбыліся выбары, і пераважаючай бальшынёй галасоў быў выбраны новы Прэзыдэнт Рэспублікі Беларусь спадар Міхаіл Чыгір, якога сп. А. Лукашэнка, прадбачаючы для сябе пагрозу, за тры месяцы да выбараў арыштаваў і трымае у турме без ніякіх абвінавачаньняў.

Сп. А. Лукашэнка, ігнаруючы закон Канстытуцыі, вырашыў не вызнаваць выбары праўнымі і застаецца выконваць абавязкі Прэзыдэнта на неабмежаваны час да наступных выбараў, якія ён прызначыць калі яму будзе выгадна.

Разьдзел 4, артыкул 104 і 105 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь зазначае: «Прэзыдэнт можа быць зьняты з пасады ў выпадку парушэньня Канстытуцыі пастановай Вярхоўнага Савета і яго паўнамоцтвы да прыняседння Прысягі нававыбраным Прэзыдэнтам пераходзяць да Старшыні Вярхоўнага Савета». Старшынёй Вярхоўнага Савету ў час выбараў 16.5.1999 быў сп. Сямён Шарэцкі, але адразу пасьля выбараў, апасаясь за сваё жыцьцё, сп. С. Шарэцкі быў вымушаны прасіць Урад Рэспублікі Летува даць яму часовы прытулак у гэтай краіне.

Зазначаем, што ўсе дэмакратычныя краіны сьвету, ўключна Злучаныя Штаты Амэрыкі, не вызнаюць сп. А. Лукашэнка як легітымнага Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Як прыклад, мы хочам зьвярнуць Вашу ўвагу на яго дыктатарскі спосаб кіраўніцтва дзяржавай. Атрымаўшы ўладу, ён адразу загадаў правесьці няпраўны рэфэрэндум, і як Вы памятаеце, на Алімпіядзе ў Атлянце 1996-м годзе замяніў нацыянальную сімволіку, Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і старадаўні Герб «Пагоня», на былую савецкую, якую Беларуская Незалежная Дзяржава прымушана ўжываць і на сёньняшні дзень.

Сп. А. Лукашэнка ў прамове перад ім створаным «урадам» ўсенароднна параўноўвае сябе з Адольфам Гітлерам і прапануе павесьці Беларусь па сьлядах фашысцкай Германіі. Галоўная мэта сп. А. Лукашэнкі — гэта ліквідацыя Рэспублікі Беларусь як незалежнай дзяржавы, поўная інтэграцыя ў склад Расійскай Фэдэрацыі і балаціраваньне на пасаду Прэзыдэнта Расійскай Фэдэрацыі.

Для таго, каб Вы змаглі больш дасканальна зразумець слажыўшуюся сытуацыю ў Рэспубліке Беларусь, мы радзім Вам паглядзець тэлевізыйную праграму «Замежны Карэспадэнт», «Забытая Краіна», прадстаўленую Джоржам Нігус па «АБЦ» 4.8.1998-га году.

Таму мы, грамадзяне Аўстраліі Беларускага паходжаньня, шануючы прынцыпы дэмакратыі і права чалавека, зьвяртаемся да вас, Алімпійская Фэдэрацыя Аўстраліі, не даваць сп. А. Лукашэнку ганаровага права Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь на «Алімпіядзе 2000».

Ідэалы Алімпіяды — гэта справядлівасьць, сяброўства і пашана, і таму мы верым, што Вы высьветліце гэтую справу з Інтэрнацыянальным Алімпійскім Камітэтам і дасьце справядлівы выснаў.

Мы зьвяртаемся да ўсіх народаў сьвету падтрымаць нашую ініцыятыву, каб паказаць такім дыктатарам як сп. А. Лукашэнка, што ім няма мейсца ў дэмакратычным сьвеце сярод вольных людзей.

З пашанай да Вас

**Упаўнаважаны Управай Ф.Р.Б.А.у А.**

**Сябра Управы** **Алег Шнэк**

**Сакратар Управы** **Павел Гуз**

20.10.1999

# БЕЛАРУСКАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ СЬВЯТОГА ЮР'Я Ў ЧЫКАГА — 40 ГАДОЎ



*Епіскап Гарадзенскі і Ваўкавыскі Арцемій, айцец Дзімітры Бажко і Мікола Матрунчык з удзельнікамі сьвяткаваньня 40-годьдзя царквы сьвятога Юр'я.*

Нядаўна ў Чыкага у беларускай праваслаўнай царкве сьвятога Юр'я адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне саракагодзьдзя яе адчыненьня. Пасьля сьвяточнай літургіі ўсе прысутныя былі запрошаны на ўрачысты абед. Прагучалі афіцыйныя віншаваньні і прывітаньні, у тым ліку ад Губернатара штату Ілінойс. У сваей яскравай прамове Мікола Латушкін, адзін зь першых арганізатараў гэтага прыходу і сакратар царкоўнай рады, нагадаў выдатныя старонкі зь гісторыі царквы, якая была і есьць важным асяродкам беларушчыны і духоўным і культурным цэнтрам у Чыкага. Затым адбыўся сьвяточны канцэрт, у якім прынялі ўдзел дзеткі, выхаванцы гуртка беларускай музыкі і танцаў «Лянок» пры парафіі сьвятога Юр'я, а таксама артысты фальклорна-музычнага ансамблю «Забава».

Спэцыяльна зь Беларусі на сьвяткаваньне юбілею царквы прыехалі епіскап Гарадзенскі і Ваўкавыскі Арцемій і старшыня Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў Мікола Матрунчык, добра вядомы сеньня ў асяродку беларускай творчай інтэлігенцыі. Яны згадзіліся пагутарыць з намі.

— Мне хочацца адразу падкрэсьліць, што на Беларусі, якая заўседы вызначалася свай талерантнасьцю, стагодзьдзямі мірна суіснавалі асноўныя сусьветныя рэлігійныя канфэсіі — і праваслаўныя, і каталікі, і іудзеі, і пратэстанты, і мусульмане, — так пачаў епіскап Гарадзенскі і Ваўкавыскі свае развагі аб сёньняшніх духоўных працэсах на беларускай зямлі і ў дыяспары. — Вельмі частыя былі і зьмешаныя шлюбы, і сем'і жылі ў міры і згодзе. Таму і сеньня вельмі важна кожнаму вызначыць сябе духоўна, знайсьці, адчуць і выхаваць у сабе тую духоўнасьць, якая ёсьць бліжэйшая да цябе. Свой духоўны выбар, напэўна, трэба даказваць проста — сваімі штодзеннымі справамі, сваім жыцьцём. Усё прымусовае, нават прымусовае дабро, будзе мець потым скажоныя і хворыя вынікі.

Рэлігійныя канфэсіі на былой савецкай прасторы перажываюць сеньня асаблівы пэрыяд. Пасьля амаль васьмідзесяці гадоў забароны і ганеньняў мы нібы выйшлі з катакомбаў, атрымалі магчымасьць свабоднай прапаведзі, вольнага дэмакратычнага духоўнага выбару. Але яшчэ жывыя стэрэатыпы мінулага, ад якіх трэба адыходзіць рашуча. Нельга забывацца на гісторыю. Рэлігія — гэта сувязь чалавека з Богам. І калі яна ператвараецца у палітыку, у ідэалегію, тады разбураюцца храмы. І праваслаўе, і іншыя рэлігіі губляюць многае, калі яны становяцца дзяржаўнай структурай.

З другога боку, роздум аб мінулым ставіць мноства іншых пытаньняў. Чаму Расія, трэцці Рым, разбурылася, ператварылася у рассаднік бязбожнасьці, ва ўсясьветны антыхрысьціянскі цэнтар? Чаму людзі, якія мелі тады штамп «праваслаўны» у сваіх пашпартах, расстрэльвалі сьвятароў у Салаўках? Колькі сьвятароў зьнішчана ў Гулагу? За што? Чаму? Як пасьля ўсяго гэтага, пасьля эпохі ганеньняў і рэпрэсій узьняцца на ногі, знайсьці свае мейсца ў жыцьці?

У сеньняшнім грамадзтве шмат зьмянілася, папулярна сталася быць веруючым, модна быць праваслаўным. Але што сапраўднае, а не паказное? Як пры гэтым царкве паводзіць сябе, вызначыць свае становішча й месца у грамадзтве? Тут вельмі важнае значэньне маюць нашыя ўзаемасувязі й кантакты, у тым ліку і мой прыезд сюды — упершыню за сорак гадоў праваслаўны сьвятар з Бацькаўшчыны прыехаў у гэты праваслаўны беларускі прыход. І ня толькі дзеля юбілею, але і дзеля ўзаемаабмену найкаштоўнейшым вопытам духоўнай службы і духоўнай працы і кантактаў з прыхаджанамі.

Царква, храм — гэта найперш лячэбніца духоўная, уратавальніца душы. Мы мусім быць як мэдыкі: якая б улада ні прыйшла, мы павінны выконваць свой абавязак. Маральны аспэкт стала захоўваецца за царквою, і ў гэтым напрамку мы стараемся ўзьдзейнічаць на душы людзей, казаць свае словы. Асноватворны фактар сеньня — гэта прымірэньне з самім сабой, духоўнае фармаваньне кожным самога сябе. Адна з асноўных мэтаў царквы бачыцца ў дапамозе людзям усьвядоміць сэнс іхняга жыцьця. І тут вялікае значэньне маюць духоўныя сьвятыні, якія ствараліся, як правіла, у цяжкія часы. Вось і цяпер беларуская праваслаўная царква пачала з пакаяньня, з аднаўленьня нашай нацыянальнай сьвятыні — славутага Крыжа сьвятой Еўфрасіньні Полацкай.

Мы многа чулі пра тую працу, што вядзе ў парафіі сьвятого Юр'я у Чыкага айцец Дзімітры Бажко, рады магчымасьці прыехаць сюды ў Амэрыку, пазнаеміцца з царкоўным жыцьцем, нешта параўнаць, нешта пераняць. Беларуская дыяспара ў Амэрыцы захавала многія рысы і традыцыі нацыянальнай і агульначалавечай духоўнасьці, і гэта вельмі важна і павучальна сеньня.

Другі наш госьць і субяседнік, Мікола Матрунчык, расказаў аб тым, штож уяўляе сабой Беларускае Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў.

— Нашае Брацтва створана ўжо болей 7 гадоў таму, названа яно так у гонар віленскіх сьвятых Антона, Іаана і Яўстафія, жыцьце і пакутніцкая сьмерць якіх — сымбаль нашага беларускага лесу. Брацтва аб'ядноўвае беларускую інтэлігенцыю, якую цікавяць праваслаўныя традыцыі у беларускай культуры і наадварот — традыцыі беларускай культуры ў праваслаўі. Аснова нашай працы — гэта дасьледчая і выдавецкая дзейнасьць. У нашай лябараторыі царкоўнай гісторыі мы стараемся з пункту гледжаньня рэлігіі вывучыць і асьвятліць многія праблемы нашай нацыянальнай гісторыі, на многія выпрацаваць прынцыпова іншы пагляд. Мы таксама праводзім калёквіумы і сэмінары по розных пытаньнях узаемасувязяў духоўнага жыцьця і культуры. Нядаўна, напрыклад, мы праводзілі сэмінар «Духоўнасьць і паэзія», які выклікаў вялікую цікавасьць. Актыўна працуе наша маладзежная філія Брацтва, яна пасьпяхова наладжвае сувязі з замежнай духоўнай моладзьдзю. Мы лічым вельмі важным ня быць правінцыяльнымі, бачыць і ацэньваць свае нацыянальныя духоўныя традыцыі у эўрапейскім кантэксьце. Абапіраючыся на наша Брацтва, Усясьветны Савет Цэркваў адкрыў свой беларускі офіс. Мы атрымліваем дапамогу з розных царкоўных фондаў і агенцтваў і разьмяркоўваем яе на парафіях, па царквах, сочым, каб яна трапляла тым, хто мае ў ёй патрэбу.

У гутарцы прыняў удзел сьвятар царквы сьвятога Юр'я айцец Дзімітры Бажко, які яшчэ раз спэцыяльна падкрэсьліў значэньне гэтага першага за увесь час існаваньня прыходу прыезду гасьцей — прадстаўнікоў беларускай праваслаўнай царквы. У тыя дні адбыліся таксама сустрэчы епіскапа Гарадзенскага і Ваўкавыскага Арцемія і Міколы Матрунчыка з чыкагскімі праваслаўнымі іерархамі, мітрапалітам грэцкім Якавасам і мітрапалітам сэрбскім Хрыстафорам. Развітваючыся, госьці прасілі перадаць найлепшыя зычэньні ўсім беларусам, што жывуць у Амэрыцы.

**Гутарку веў Ванкарэм Нікіфаровіч**

# ЛЁНДАН

19 лістапада ў Лёндане адбылася прэзэнтацыя новай кнігі ангельскага славіста прафэсара Арнольда Макміліна «Беларуская літаратура ў 1950-60 гады: вызваленьне і адраджэньне», якая месяц таму выйшла ў нямецка-аўстрыйскім выдавецтве Bohkay Verlag. Прафэсар Макмілін у сваёй працы зьвярнуўся да гадоў «выйсьця зь цемры» беларускай літаратуры пасьля сьмерці Сталіна і ейнага разьвіцьця пад час адноснае вольнасьці ў 60-я гады.

Прафэсар Макмілін больш як 30 гадоў займаецца беларускім літаратура- і мовазнаўствам. Ягоная першая навуковая праца «Слоўнік беларускай літаратурнай мовы XIX ст.» выйшла ў 1973 г., калі на Захадзе не бракавала скептыкаў што да існаваньня самастойнае беларускае мовы. Па словах а. Аляксандра Надсана, які ўзяў слова падчас прэзэнтацыі, «Гісторыя беларускае літаратуры» А. Макміліна (1977) — першая сур'ёзная праца падобнага кшталту, створаная згодна прынцыпаў і стандарту заходняга літаратуразнаўства. Акрамя таго, прафэсар Макмілін — аўтар прадмоваў да кніг, дзесяткаў артыкулаў на розных мовах, апошні зь якіх, прысьвечаны паэзіі Ул. Караткевіча, надрукаваны сёлета ў беластоцкім беларускамоўным часапісе «Тэрмапілы». У 1992 г. ён падрыхтаваў зборнік Ларысы Геніюш «Вершы», рукапіс якога ў свой час перадаў ў Лёнданскую Скарынаўскую бібліятэку адзін зь беларусаў, што апынуўся ў Нямеччыне.

Цяпер Арнольд Макмілін зьяўляецца прафэсарам Лёнданскага ўнівэрсытэту й віце-прэзыдэнтам Англа-Беларускага Таварыства. Праз два гады ён мяркуе закончыць кнігу, якая будзе прысьвечаная нашай літаратуры ў 70-80я гады.

* * *

27 лістапада ў Лёндане адбылася вечарына, прысьвечаная ўгодкам Слуцкага збройнага чыну. Урачыстасьць пачалася малебнам за ўсіх загінутых за свабоду Беларусі, які адслужыў а. Аляксандар Надсан. Працягам стала кароткая акадэмія, падрыхтаваная студэнтамі-сябрамі Згуртаваньня Беларусаў Вялікае Брытаніі. Яны падрыхтавалі даклад пра падзеі на Случчыне 79 гадоў таму, чыталі вершы й артыкул Янкі Купалы «Моладзь ідзе», напісаны за год да паўстаньня й прысьвечаны адраджэньню на Случчыне. Традыцыйная вечарына завяршылася гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», напісаным Макарам Краўцовым у часе Слуцкага паўстаньня.

**Алесь Нешчарда**

# БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ

27-га лютага сёлета у залі катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага, БАПЦ, у Брукліне адбудзецца Беларускі Фэстываль. Мэта гэтае імпрэзы — пазнаеміць жыхароў раёну — ды і ўсяго Брукліну зь Беларусьсю, нашай культурай, звычаямі. Наш сабор у гэтым раёне — выспа Беларусь! Таму, правесьці гэтую імпрэзу ўдала — справа нашага нацыянальнага гонару. Арганізуюць фэстываль Сабор Сьв. Кірылы Тураўскага, БАПЦ ды Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.

Запрашаецца ўсё грамадзтва.

**Ю. Васілеўскі**

# ВЕСТКІ ЗЬ НЬЮ ЁРКУ

## СХОД НЬЮ-ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА

У фундацыі імя П. Крэчэўскага ў Нью Ёрку 11 сьнежня адбыўся чарговы штомесячны сход нью-ёрскага аддзелу БАЗА. Напачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка і сакратар аддзелу сп-ня Галіна Навумчык азнаёмілі прысутных з апошнімі навінамі, зьвязанымі з Беларусьсю, асноўная з іх — падпісаньне у Маскве ганебнай дамовы пра т.зв. «саюзную дзяржаву», што ставіць пад пагрозу незалежнасьць Беларусі. Пасьля быў паказаны відэазапіс падзеяў дэмакратычнай акцыі пратэсту супраць дыктатуры Лукашэнкі «Марш Свабоды», што адбыўся ў Менску 17 кастрычніка. Відэастужка з гэтым запісам была прадстаўлена Старшынём Галоўнай Управы БАЗА сп. Антонам Шукелойцам.

Сп. В. Зайка паведаміў прысутным аб арганізаваньні ініцыятыўнай групы па стварэньні Беларускага Дому на Мангатане. У склад групы былі прапанаваныя сп.сп. Віталь Міхноўскі, Ала Орса-Рамана, Ала Кузьміцкая, Анатоль Тальянскі, Юля Андрусышын, Ігар Шаламіцкі, Вітаўт Кіпель. Сход галасаваньнем зацьвердзіў ініцыятыўную групу ў гэтым складзе.

Сп. Ігар Шаламіцкі паінфармаваў прысутных пра ход працы па стварэньню Беларускага крэдытнага зьвязу, адзначыўшы, што з падпісаньнем кіраўніцтвам БАЗА і БІНІМу неабходных дакумантаў пачынаецца практычны этап фармаваньня і рэгістрацыі гэтай структуры.

Удзельнікі сходу павіншавалі сяброў аддзелу БАЗА сп.сп. Зьміцера Левіта й Уладзіміра Бляцко з атрыманьнем амэрыканскага грамадзянства, а двух іншых сяброў аддзелу — з атрыманьнем легальнага статусу ў ЗША.

Пасьля сходу адбыўся канцэрт музыкаў з Беларусі — сьпевака Алена, пераможцы нацыянальных і міжнародных конкурсаў, і акампаніатара Міхаіла Абраменкі. Пасьля канцэрту жадаючыя маглі набыць кампакт-кружэлкі й касэты з запісамі сьпевака.

## АДЗНАЧЭНЬНЕ ГАДАВІНЫ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ

У Катадральным Саборы Сьвятога Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку (401 Атлянтык Аве.) 5-га сьнежня была адслужана паніхіда па змагарах Случчыны, што ўзьняліся ў 1920 г. са зброяй у руках супраць накінутага расейска-бальшавіцкага ярма. Пасьля паніхіды ў памяшканьні пры Саборы адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 79-м угодкам Слуцкага Збройнага Чыну. Па акадэміі з прамовай выступіў сябра Парафіяльнай Рады Сабору сп. Юрка Васілеўскі, які распавёў пра ход падзеяў лістапада-сьнежня 1920 г. на Случчыне, пра змаганьне случчакоў з Чырвонай арміяй і пра лёс змагароў пасьля задушэньня паўстаньня, падкрэсьліўшы актуальнасьць памяці пра паўстанцаў у нашыя дні.

Затым выступіў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. Антон Шукелойць. Ён адзначыў важнасьць сьвяткаваньня гадавінаў Слуцкага Збройнага Чыну і адзначыў, што прайшоўшыя 79 год расейскі бальшавізм да ягоных памагатыя ў Беларусі імкнуліся здыскрэдытаваць паўстанцаў, абмазаць іх брудам, вынішчыць з народнай сьвядомасьці памяць пра Слуцкі Збройны Чын — першы сьвядомы й мэтанакіраваны, хоць можа й адчайны, акт збройнае абароны Бацькаўшчыны. Але дарэмна — памяць пра паўстанцаў жыве і ў сёньняшняй Беларусі, нягледзячы на рэпрэсіі антынацыянальнага рэжыму, а таксама тут, на эміграцыі. Сп. Шукелойць падзяліўся ўспамінамі аб сустрэчах з удзельнікамі Збройнага Чыну ў міжваенныя гады ў Вільні, і аб тым, як левыя беларускія актывісты й камуністы імкнуліся давесьці, быццам паўстаньне было арганізавана польскімі спэцслужбамі і за польскія грошы, і як ветэраны-случчакі годна баранілі гонар змагароў супраць расейскага бальшавізму.

Пасьля з выкананьнем сваіх твораў выступілі музыкі з Беларусі — сьпявак Ален і акампаніятар М. Абраменка. **В. Зайка**

## З ЖЫЦЬЦЯ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

Кліўлэнд аднавіўся: пасьля даўгаватага пэрыяду чаканьня, 19-га сьнежаня пачаліся Багаслужбы ў новай царкве, у Полацку. У гэты-ж дзень адзначаліся ўгодкі Слуцкага Чыну. Праўда, увечары 18 сьнежня высокашаноўныя айцы М. Страпко і К. Беленькі асьвяцілі новую царкву, падрыхтавалі яе да Багаслужбаў, а мітрапалітавае высьвячэньне (мітрапаліта Мікалая) адбудзецца пазьней.

Адзначыць угодкі падзеяў на Случчыне сабралася ладна прыхаджанаў ды гасьцей. Настрой быў урачысты. Спрыяў гэтаму выдатны сьпеў хору ды цудоўная акустыка новае царквы. Шмат у каго з прысутных на касьцюмах былі беларускія значкі, а таксама скрыжаваныя амэрыканска-беларускія сьцяжкі. У часе службы ганаровую варту несьлі сп.сп. Мельнік і М. Стрэчань.

Пасьля ўрачыстае часткі адбыўся супольны абед, смачна зрыхтаваны жанчынамі, а затым мастацкая частка — сьпевы жаночнага хору пад кіраўніцтвам сп. Аляксандра Яноўскага ды акампаніятара сп. Фёдара Паўлаўца. Бясспрэчна, беларусы Кліўленду і адзначылі Слуцкі Чын і ў прыемнай, урачыстай атмасфэры правялі час.

**В.М.**

## БЕЛАРУСКАЯ ЯЛІНКА Ў АТАВЕ

У гэтым годзе ўпяршыню National Arts Center (Нацыянальны Цэнтр Мастацтваў) у Атаве запрасіў Атаўскі Аддзел Згуртаваньня Беларусаў Канады аздобіць ялінку. Безумоўна, ад такога гонару не маглі мы адмовіцца, бож была гэта нагода пазнаёміць тысячы людзей з прыемнай беларускай традыцыяй. Скрыню цудоўных саламяных цацкаў прыслала мастачка Таня Маркавец, якая цяпер жыве ў Вільні. Спэцыяльна іх спляла. Двухмэтровую ёлку, якая стаіць пры ўваходзе ў Опэру, група сяброў Атаўскага Аддзелу ЗБК аздобіла 27-га лістапада, перад Калядными канцэртамі і прадстаўленьнямі. Беларуская ёлачка будзе упрыгожваюць Опэру Атавы да канца сьнежаня. Выглядае цудоўна. Захапляюцца ёю і Беларусы і Канадыйцы.

## УГОДКІ СЛУЦКАГА ЧЫНУ Ў АТАВЕ

Угодкі Слуцкага Паўстаньня Беларусы Атавы адзначылі 4-га сьнежня. Сабралася вялікая група нашых суродзічаў ува ўтульным доме Спадарства Шамецькаў. Юрка Шамецька, Сакратар Атаўскага Аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Канады, гаварыў прысутным аб падзеях на Случчыне ў канцы лістапада 1920-га году, а старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла расказала, як гэтыя падзеі адзначаюцца кожны год нашымі суродзічамі ўва ўсім сьвеце. Прысутныя ўшанавалі мінутай маўчаньня памяць гэрояў, якія аддалі жыцьцё, каб жыла Бацькаўшчына. Доктар Пятро Мурзёнак прачытаў некалькі вершаў на тэму Слуцкага Паўстаньня. Афіцыяльная частка закончылася гімнам «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», пасьля чаго прысутныя доўга яшчэ дзяліліся уражаньнямі і шкадавалі, што ў Беларусі так мала суродзічаў ведаюць аб Слуцкім Паўстаньні.

## ГЕНАДЗЬ ГРУШАВЫ НА СУСЬВЕТНЫМ ЗЬЕЗЬДЗЕ НЯЎРАДАВЫХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ

На сусьветнай Канфэрэнцыі Няўрадавых Арганізацыяў (NGO's), якая адбылася у пачатку сьнежаня ў Манрэалі (Канада), Беларусь прадстаўляў старшыня Беларускага Дабрачыннага Фонду «Дзецям Чарнобыля» Генадзь Грушавы, які зьяўляецца таксама арганізатарам і каардынатарам Працоўнай Групы Няўрадавых Арганізацыяў Беларусі.

Падчас канфэрэнцыі ў Манрэалі, праф. Грушавы спатыкаўся з шматлікімі палітыкамі і грамадзкімі дзеячамі, у тым ліку і з сп. Кофі Анан.

31-га кастрычніка 1999 г. Генадзь Грушавы атрымаў прэстыжную прэмію Фундацыі Торольф Рафто ў Нарвэгіі, за сваю дзейнасьць у галіне Правоў Чалавека.

У Манрэалі зьехаліся на спатканьне з сп. Грушавым лідары кэбэцкіх групаў, а таксама старшыня і выканаўчы дырэктар Канадыйскага Фонду Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, які супрацоўнічае з Беларускім Дабрачынным Фондам «Дзецям Чарнобыля».

На спатканьні прысутнічала Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла, дзякуючы стараньням якой быў створаны, дзесяць гадоў таму, Канадыйскі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі.

## ДЛЯ ВАС, КАЛЕКЦЫЯНЭРЫ

Нягледзячы на цяжкія эканамічныя ўмовы, на Беларусі выйшаў з друку чарговы нумар газэты «Беларускі калекцыянер». Гэта ўжо 18 нумар. Ён мае 16 старонак фармату А4 (210х297мм). У газэце зьмешчаны цікавыя рубрыкі; «Навіны баністыкі». «Луканіяна», «Наша пошта», пададзена інфармацыя пра выставу беларускіх паштовых марак у Гданьску. Уражваюць дзьве грунтоўныя публікацыі па філятэліі вядомага менскага калекцыянэра Льва Коласава «Лунінецкай пошце — 110 гадоў» і «Пошта Піншчыны». Вельмі цікавы артыкул «Сувэніры ў Аўстраліі», які прысьвечаны ўшанаваньню аўстралійскай поштай зямляка нашага сусьветнаслаўтага зямляка Тадэвуша Касьцюшкі. Не абыйдуць чытачы газэты ўвагай і артыкул аршанскага журналіста Юрыя Копціка «Горад, якога няма». Наўрад ці варта пераказваць інфармацыю пра ўсё надрукаванае ў газэце. Лепей саму чытачу дакрануцца да першакрыніцы. Газэта таксама друкуе шмат аб'яў і абвестак сваіх чытачоў зь Беларусі, Украіны, Польшчы, ЗША, якія могуць зацікавіць шмат каго з калекцыянераў. Дарэчы, аб'явы па тэматыцы беларускага калекцыянаваньня газэта друкуе задарма. Адрас рэдакцыі газэты «Беларускі калекцыянер»: п/с 46, Орша-9, 211030, БЕЛАРУСЬ (Belarus).

# ДЗЕЙНАСЬЦЬ У НЬЮ ДЖЭРЗІ

## СЭКТАР РАДЫ БНР

16 кастрычніка адбылося паседжаньне Сэктару Рады БНР штату Нью Джэрзі пад кіраўніцтвам старшыні сп. Я. Азаркі. Былі абмеркаваныя палітычныя справы кампэтэнцыі БНР ды плян працы на бліжэйшую будучыню.

## СЛУЦКІЯ ЎГОДКІ

20-21 лістапада Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў, мясцовы аддзел БАЗА і прыход БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці ладзілі адзначэньне ўгодкаў Слуцкага Чыну.

У суботу 20-га, на беларускім могільніку ў Іст Брансўіку былі ўдэкараваныя бел-чырвона-белымі сьцяжкамі магілкі беларускіх вэтэранаў і нацыянальных дзеячоў. У нядзелю-жа 21 лістапада айцец Васіль Андрэюк адслужыў паніхіду ды сказаў пропаведзь-прамову прысьвечаную падзеям на Случчыне, а затым ў залі парафіі БАПЦ адбылася акадэмія, у часе якоў быў высьветлены фільм з кастрычніцкіх падзеяў у Менску. Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Мерапрыемствам «Слуцкія ўгодкі» кіравалі Я. Азарка, Ю. Азарка, А. Сільвановіч ды сябрамі ганаровае сьцяжное варты былі А. Субота і А. Непеін.

## КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ

Каардынацыйны Камітэт палітычнае дзейнасьці пад кіраўніцтвам А. Сільвановіча і др. Я. Запрудніка апрацаваў і распаўсюдзіў колькі мэмарандумаў аб палітычных падзеях у Беларусі ды рэгулярна інфармуе мясцовае грамадзтва аб «беларускай праблеме» на Інтэрнэце праз насьценную газэту ў парафіі БАПЦ Жыровіцкае Божае Маці.

***СУЧАСНАЯ ЛІТАРАТУРА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА***

*Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч*

# АНДРЭЙ КЛЁНАЎ



***А. Клёнаў***
*Фота Л. Юрэвіча*

*Рыхтуючыся да размовы з Андрэем Клёнавым, я накідаў варыянт ягонай біяграфіі, паколькі ні ў водным беларускім даведніку, ніводнай нашай энцыкляпэдыі такога пісьменьніка тым часам бы няма. Атрымалася наступнае: Андрэй Клёнаў (сапраўднае прозьвішча Арон Куперштох, друкаваўся таксама пад псэўдонімамі Андрэй Кулікоў, Андрэй Курбоў) — пісьменьнік, перакладчык. Нарадзіўся ў 1920 г. у мястэчку Магільна ў сям'і Ільлі і Іды Купэрштох. Як ён згадвае ў сваёй кнізе «Малюнкі Нью Ёрка» ў разьдзеле «Бруклінскі мост. Малюнак с лірычным адступленьнем, прысьвечаным Нёману — маёй любімай рэчцы, менскай Сьвіслачы й мастам над імі», першы верш напісаў менавіта там на беларускай мове — «мове маёй бабулі Ганны, маіх сяброў у Магільна й першай школы маёй». Значны ўплыў у маладосьці таксама зрабіла віцяблянка Зося, пазьней пасаджаная за «нацдэмаўшчыну» і сасланая ў Сібір.*

*Друкавацца пачаў у 1935 г. Першы зборнік вершаў «Мои друзья» выдаў у 1940 г. у Менску. На фронт пайшоў дабравольцам. Па вайне вучыўся ў Маскоўскім Дзяржаўным Пэдагагічным Унівэрсітэце і ў Літаратурным Інстытуце імя Горкага.*

*У лютым 1973 г. эміграваў у Ізраіль, у 1974 г. пераехаў у ЗША. Жыве ў Брукліне, Нью Ёрк.*

*Выдаў: «Неназванная книга» (Масква, 1957), «Три дня в Москве» (Масква, 1961), «Поиски любви» (Масква 1967; другое выданьне, перапрацаванае — Нью Ёрк, 1989), «Картинки Нью Йорка» (Нью Ёрк, 1983; другое выданьне, дапоўненае — Нью Ёрк, 1990), «Откровение: книга поэм» (Нью Ёрк, 1984), «Утренний голос: роман в монологах» (Нью Ёрк, 1986), «Годы любви и печали» (Нью Йорк, 1987), «Поздние цветы: много четвертостиший, долго ждавших издания, новые стихотворения, новые поэмы» (Нью Ёрк, 1992), «Писатели и книги, или маленькая энциклопедия словесного творчества» (Нью Ёрк, 1996). У рамане «Поиски любви» апісаў сваю сустрэчу зь Янкам Купалам. У творах часта зьвяртаецца да тэмы Беларусі, свайго маленства, беларускай гісторыі (вершы «Берлин горит», «Причет белорусской крестьянки», «Старый город», «Княжеская баллада», паэма «Беловежская пуща»). У гадах 70–80-х выдрукаваў некалькі артыкулаў-успамінаў у «Беларусе».*

*Ягоная біяграфія й абумовіла мае пытаньні пры сустрэчы, што адбылася ў бруклінскай кватэры паэта сьпякотным ліпеньскім днём.*

З Ізі Харыкам я пазнаёміўся ў 1934 годзе. Дарэчы, яму й Зэліку Аксэльроду я прысьвяціў верш — «Партрэты гэйрайскіх паэтаў». У 1934 годзе сьвяткавалі — па савецкім звычаі — 10-годзьдзе (!) выдатнага паэта, сьвяткавалі шырока, па ўсёй Беларусі. Да гэтай даты Ізі Харык выдае сваю апошнюю й мо найлепшую паэму — «На чужым вясельлі». Я быў тады 14-і гадовым школьнікам, але ўжо пісаў вершы. І мой дзядзька, чалавек дзіўны, як і я, магчыма, зьбіраў кнігі, быў бедны, але купляў іх шмат. Вось менавіта ў яго я й пабачыў выданьне гэтай паэмы. Я ўжо ведаў Харыка, некалі быў на творчым ягоным вечары, дзе ён выступаў разам з Перацам Маркішам. Я пачаў чытаць паэму й яна мяне проста ўразіла. Я да сёньня памятаю гэтыя радкі: «Я ведаю цябе, Беларусь, як ведаю ўласныя пальцы». І я з нахабствам і самаўпэўненасьцю маладога пачаў перакладаць першы разьдзел. І я пераклаў так: «Я ведаю цябе, Беларусь, як уласны профіль свой ведаю», бо арыгінал не ўкладаўся ў вершаваны памер — у гамэраўскі гэкзаметр (я перакладаў на расейскую мову). І пераклаў увесь разьдзел. Перапісаўшы з арфаграфічнымі памылкамі, вырашыў паказаць аўтару — што ён скажа. І я прыйшоў у двухпавярховы будынак Саюзу Пісьменьнікаў на рагу Камсамольскай і Савецкай, які зьнік пад час вайны, і спытаўся, ці магу ўбачыць Ізі Харыка. Мне параілі пачакаць. І я дачакаўся. Я падыйшоў да яго й сказаў: «Таварыш Харык, я Арон Куперштох, пішу вершы й вось пераклаў частку Вашай паэмы «На чужым вясельлі». Ён так зьдзіўлена паглядзеў на мяне й папрасіў паказаць. Я дастаў пераклад, і мы селі разам на падваконьне. Ён прачытаў адзін раз, другі і сказаў літаральна наступнае: «Слухайце, малады чалавек, гэтыя вершы ня могуць перакласьці напраздныя паэты, а Вы зрабілі. Ведаеце што, у мяне зараз няма часу, але ў наступную нядзелю я чакаю Вас дома. Прыходзьце». Ён жыў у так званым Доме спэцыялістаў на Камароўцы, дзе жылі самыя вядомыя людзі Менску.

У наступную нядзелю я ўзяў пераклад, уласныя вершы й прыйшоў да яго. У яго ўжо былі госьці — Зьмітрок Бядуля, Зэлік Аксельрод і Андрэй Александровіч. Мы пазнаёміліся. Ізі Харык папрасіў мяне прачытаць пераклад, а потым свае вершы. Яны добра паставіліся да мяне. Але больш мы ніколі не бачыліся — неўзабаве яго арыштавалі.

Ужо шмат пазьней, у 1950-я гады, калі я перакладаў ягоныя вершы для маскоўскага зборніка, я пазнаёміўся зь ягонай удавой і даведаўся пра трагічны лёс дзяцей Ізы Харыка. Сам Харык ажаніўся позна, у іх былі хлопчык і дзяўчынка. Тады арыштавалі не аднаго Харыка, а ягоную жонку таксама. Дзяцей забралі ў дзіцячы дом, дзе ім далі іншыя прозьвішча. Пасьля вяртаньня зь лягеру жонка Харыка сваіх дзяцей адшукаць ужо не змагла.

Кароткая літаратурная энцыкляпэдыя прысьвяціла Зэліку Аксельроду 10 радкоў, паведаміўшы, што нарадзіўся ён там і тады, а памёр у такім вось годзе, не ўдакладніўшы, дзе і як. У Зэліка быў прыгожы біблейскі твар. І ён заўсёды ўсьміхаўся. Я пазнаёміўся зь ім у 1936 годзе, калі пачаў пісаць. Ён такеама позна ажаніўся, як і Харык, у саракавым годзе, і запрасіў на вясельле багата менскіх пісьменьнікаў, гэбрайскіх і беларускіх, у тым ліку й мяне, паэту-пачаткоўца. У сорак першым годзе, амаль перад самым пачаткам вайны, Аксельрода арыштавалі. За што? За тое, што ён, як і Харык, быў адным зь лепшых гэбрайскіх пісьменьнікаў на беларускай зямлі. Менск пачалі бамбіць у першы дзень вайны. І перад тым, як зьбегчы, супрацоўнікі ГПУ Зэліка забілі. Я пра тое даведаўся пасьля вайны.

Адзін эпізод пра сустрэчу зь Бядулем. У Менску у Беларускім Дзяржаўным Тэатры сьвяткавалі юбілей (а мо творчы вечар) Якуба Коласа. Я там быў і мы спаткаліся са Зьмітраком. Ён абняў мяне й павёў гуляць па калідорах. Мы доўга гаварылі. Я спытаўся, ці я буду я паэтам. Ён адказаў зь усьмешкаю: «Я стары чалавек. Я бачыў багата маладых паэтаў, але мала каму гэта казаў. Я не ведаю, кім Вы будзеце — паэтам, празаікам, крытыкам. Але я ведаю дакладна — Вы будзеце пісаць».

З Рыгорам Бярозкіным я пазнаёміўся на зьезде пісьменьнікаў пасьля вайны ў будынку, які потым заняў КГБ. Такая вось гіронія лёсу... Я быў там разам з дэлегацыяй маскоўскіх пісьменьнікаў (прынялі мяне ў Саюз Пісьменьнікаў у 1940 годзе ў Менску, прычым, адразу ў сябры, хоць жыў я ў Маскве. Гэта Глебкава заслуга і Кандрата Крапівы). Ачольваў дэлегацыю Канстанцін Сіманаў. Сустрэліся мы з Бярозкіным у буфэце. Ён быў у ваеннай форме, толькі прыехаў зь Нямеччыны. Калі мы гаварылі, ён быў вельмі сумны, прыгнечаны, мабыць, прадчуваў нешта. Потым бачыліся мы часта, і ў Кактэбеле, куды ён прыехаў з Герцовічам, таксама крытыкам, і ў Менску, дзе ён працаваў у часапісе «Нёман». Памятаю, неяк надумаў я аддаць туды свае вершы, параіўся з Бярозкіным. На гэта ён адказаў: «Рабі, як знаеш, але я нічым дапамагчы не магу, не хачу ўмешвацца».

Аднойчы я быў у яго дома, гэта недзе каля Камароўкі. Тая сустрэча зрабіла на мяне прыкрае ўражаньне. Ён надта зьмяніўся, шмат піў, патаўсьцеў, стол, за якім мы сядзелі, быў завалены брудным посудам, нейкай закускай. Ён быў пьяны. Гэта быў чалавек, пераможаны ўладаю.

Добра ведаў Кучара. Гэта быў стопрацэнтовы стукач, як, дарэчы, і Эдзі Агняцвет. Але ён сябраваў з Глебкам, здаецца, суседзямі былі, яшчэ з тых часоў, калі Пятро жыў з жонкавымі бацькамі, што працавалі на чугунцы, у драўлянай хаце. Кучар быў бясспрэчна таленавітым чалавекам. У мяне зь ім атрымаўся сьмешны выпадак. Прыехаўшы ў Менск, пабачыў афішу «Гэто было ў Менску». Я не разабраўся, падалося, што ідзе гаворка пра габрэйскае гето. І кажу яму: «О, ты напісаў п'есу пра гето!» Бо там загінулі мае бацькі, гэта да сёньня мая тэма. Дык вось, Кучар расьсмяяўся ды кажа: «Не, пра гэтае «гето» я пісаць ня буду».

Зь Пятром Глебкам я пазнаёміўся падчас навучаньня ў другой беларускай школе. Быў я тады ў 6 ці 7 клясе. Адбывалася школьная алімпіяда мастацкай самадзейнасьці. І да нас прыйшлі ў школу Крапіва й Глебка, выбіраць сярод паэтаў удзельнікаў алімпіяды. У нас было два такіх паэты — я, расейскамоўны, і Аркадзь Гэйнэ, беларускамойны.

Саму алімпіяду я ўжо ня памятаю, але я чамусьці спадабаўся Глебку, быў запрошаны ў госьці, чытаў яму амаль усе новыя свае вершы. Ён выпраўляў, я прыносіў іх зноў, зноў чытаў. Адзін верш пад назвам «Зіма» так яму спадабаўся, што ён аддаў яго ў «Літаратуру й мастацтва» і, напэўна, упершыню ў гісторыі гэтага выданьня у рубрыцы «Творчасьць пачынаючых» быў за подпісам А. Куперштох надрукаваны расейскамоўны верш. Было мне тады 15 ці 16 гадоў. Вось ад таго часу я пачаў друкавацца.

Недзе напрыканцы 1945 году я з фронту заехаў у Менск, наведаў бацькоў Ніны — Глебкавай жонкі. Тыя, ведаючы, што я вяртаюся ў Берлін, далі мне ейную адрэсу й папрасілі адшукаць Ніну. А зь Нінаю было вось што. Яна засталася ў Менску пад час вайны, працавала, а калі немцы адступалі, разам з усімі супрацоўнікамі беларускіх рэдакцый выехала ў Нямеччыну. Я знайшоў Ніну й напэўна паспрыяў весткамі ейнаму вяртаньню на Беларусь. Калі яна вярнулася ў Менск, яе не зачапілі, хадзілі чуткі, быццам яна працавала на савецкую разьведку. Ня ведаю, ці праўда — нашто тады было бегчы? Але я ведаю дакладна, што ў Менску пад час акупацыі яна, на маю думку, зьдзейсьніла проста гэраічны выпадак. У іх з Глебкам ня было дзяцей. І вось аднойчы яна стаяла на вуліцы і глядзела, як з гето гоняць жанчын і дзяцей — да Ямы. Яна выхапіла габрэйскую дзяўчынку з натоўпу й схавала яе, а пазьней удачарыла. Гэтую дзяўчынку, Ларысу, я потым бачыў.

## ПІКЕТЫ Ў ПРАЗЕ

На пачатку сьнежня ў цэнтры Прагі, на Вацлаўскай намесьці, прайшлі два пікеты супраць беларуска-расейскай інтэграцыі. Акцыі, якія былі арганізаваныя актывістамі беларускай суполкі у Чэхіі «Скарына» і палітычнымі ўцекачамі, шырока асьвятляліся у чэскай прэсе.



*Падчас урачыстасьці*

Шчыра віншуем вайсковага й палітычнага лідэра, шматгадовага працаўніка на грамадзкай і культурнай ніве

**др. БАРЫСА РАГУЛЮ**

зь 80-мі ўгодкамі жыцьця,
жадаем добрага здароўя і ўсякае памыснасьці ў далейшай працы.

*Прэзыдыюм Рады БНР*
*Згуртаваньне Беларусаў Канады*
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
*Управа БІНІМ*
*Рэдакцыя газэты «Беларус»*
*Сябры*

Шчыра віншуем шматгадовага дзеяча на грамадзкай і рэлігійнай ніве

**сп. КАСТУСЯ МЕРЛЯКА**

зь 80-мі ўгодкамі жыцьця,
жадаем добрага здароўя і ўсякае памыснасьці ў далейшай працы

*Прэзыдыюм Рады БНР*
*Беларуска-Амэрыканскае Аб'еднаньне ў Нью-Ёрку*
*Царкоўная рада прыходу сьв. Кірылы Турайскага ў Рычмонд-Гіле*
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
*Рада Беларускае Народнай Рэспублікі*
*Рэдакцыя газэты «Беларус»*
*Сябры*

## ЖЫЦЬЦЁ ПРАЖЫЦЬ — НЯ ПОЛЕ ПЕРАЙСЬЦІ!

26 лістапада беларуская грамада ў Нью Ёрку адзначала 90-годзьдзе сп-ні Яніны Каханоўскай, ці як мы яе ўсе клічам — спадарыні Яні.

Дарагая спадарыня Яна! Ня толькі нью-ёркцы—нью-джэрзійцы вітаюць Вас. Вас вітаюць таксама ўсе сьвядомыя й дзейныя беларусы з Бацькаўшчыны, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Чэхіі, Аўстраліі — мы ўсе зычым Вам добрага здароўя і даўгога жыцьця.

Для шырэйшага-ж грамадзтва — пару слоў аб складаным, ня лёгкім, але цікавым радаводным дрэве сп-ні Яніны.

Дзед яе Ян — Баляслаў Луцкевіч паходзіў з шляхецкае сям'і гэрбу «Навіна». Удзельнічаў у паўстаньні К. Каліноўскага, у якім загінуў ягоны брат Сьцяпан Луцкевіч.

Ажаніўся пазнавата. Першая жонка яго памерла, пакінуўшы яму 2-х малых дачок. Другі раз дзед Ян ажаніўся з шляхцянкай Зосяй Лычкоўскай з фальварку Ракуцёўшчына. Ад гэтага шлюбу нарадзіліся пяцёра дзяцей: Іван, Вікторыя, Антон, Эмілія і Сьцяпан. Спачатку сям'я жыла ў Лібаве, Шаўлях, дзе дзед працаваў чыгуначнікам, а потым пераехалі ў Менск. З гэтых дзяцей, чытач здагадваецца, Іван і Антон — сталіся выдатнымі Беларускімі дзеячамі — піянэрамі Беларускага Адраджэньня, а дачка Эмілія — мама спадарыні Яніны — выйшла замуж за інж. Аляксандра Шабуню зь ведамае сям'і часоў адраджэньня на пачатку стагодзьдзя.

У першай палове 20 стагодзьдзя сям'я шмат перажыла, большыню сям'і зьнішчылі бальшавікі, іншыя — раскіданыя па сьвеце. Спадарыні Яні, можна сказаць — пашанцавала. Выгадавала дачок, шмат працавала на грамадзкай ніве. Дапамагала дачцы Юлі гадаваць Данчыка. Цешылася й цешыцца Данчыкавымі посьпехамі.

І мы цешымся разам з спадарыняй Яняй.

**В.Я.**

## АД УНУКА, ПРА БАБЦЮ

***Прамова, якая не прагучала***



Пішу гэткія радкі з засьцярогай. Кожны чытач можа падумаць: унук выхваляе сваю бабцю. Ясна, што «бабуля» — гэта той чалавак у жыцьці кожнага, хто яго распушчае, лічыць самым разумным, прыгожым, таленавітым, беззаганным. Але калі так, то дазвольце мне прывесьці, дзеля супярэчнасьці, адзін прыклад: аднойчы, мая мама расказала мне, што калі яна была цяжарная маім старэйшым братам, мая бабця яе папярэдзіла — «Толькі ня думай, што я буду няньчыць тваіх дзяцей». Мама мне гэта апавядала зь некаторым абурэньнем, а я, у адрозьненьне, успрыняў гэтую інфармацыю з задавальненьнем, як яшчэ адзін доказ таго, што мая бабця была і застаецца не тыповай, арыгінальнай, прагрэсыўнай жанчынай, якая здольная спраўды цешыцца кожным днём. Мой таму і Ўсемагутны гэтак прадоўжвае ейныя дні.

У Амэрыцы, шмат гаворыцца аб «раўнапраўі». Усе сочаць за тым, каб захаваць «палітычную карэктнасьць». Гэта значыць, каб у дыскусіях ніколі не выявіць ніякія утоеныя прадузятасьці — да чорных, да жыдоў, да «геяў», да меншасьцяў усяго тыпу. Па-мойму гэта вельмі добра. Чалавек павінен думаць аб тым, што ён гаварыць у любым асяродзьдзі, параіцца са сваім сумленьнем, абмяркаваць свае пазыцыі, паўстрымацца ад недастаткова прадуманых выказваньняў, якія могуць быць абразьлівыя для іншых.

Аднак, я заўважыў, што чамусьці вельмі часта «старыя» людзі адпадаюць са сьпісу«недатыкальных» меньшасьцяў. У нашым грамадзтве, па-мойму, прынята зьвяртацца да старэйшых зь нейкай дыстанцыі, тонам адчужанасьці, нават часам і вышыні. Па-ангельску, гэта называецца «патранізацыя». Думаю, што ў вялікай ступені дзякуючы маей бабці, я ніколі на гэта не хварэў.

Часам дзіўна атрымоўваецца. Хоць мая бабця некалі заявіла маей маме, што яна не зацікаўленая у тым, каб «няньчыць» сваіх унукаў, яна ўрэшце рэшт сталася для мяне ня толькі дарагой і незаменнай «бабуляй», але і найдаражэйшым сябрам. Дзякуючы гэтаму, хоць нас храналягічна разьдзяляе амаль паў-стагодзьдзя, я з натуры ведаю, наколькі недаравальнае і недарэчнае прадузятае стаўленьне маладых да старэйшага пакаленьня.

Чаму для мяне бабця стала такая дарагая? Таму, што яна надзвычайны чалавек — і нейкая якасьць у маім характары памагла мне гэта зразумець і ацаніць. Нягледзячы на ўсе цяжкасьці і няўдачы, якія ёй прыйшлося перажыць, мая бабця здолела захаваць тое, што французы называюць "joie de vivre" — жыцьцярадаснасьць. Нягледзячы на нешчасьлівае асабістае жыцьце, на арышты і перасьлед пад саветамі, на адрыў ад Бацькаўшчыны і цяжкія першыя гады ў эміграцыі і многія іншыя непрыемнасьці — я заўсёды бачу бабцю з усьмешкай, у добрым настроі, добразычлівай да ўсіх. Нават цяпер, яна ўсім цікавіцца, сочыць за навінамі і нават модамі, падарожнічае, знаёміцца з «цудоўнымі» людзьмі — бо для бабці, як мы часта заўважаем у нашай сям'і, «усе цудоўныя!». І ў гэтым мабыць ейны сакрэт доўгавечнасьці і маладосьці — поўная адкрытасьць і перакананьне ў тым, што жыцьцё і людзей трэба любіць. Для мяне бабця заўсёды была і застаецца прыкладам, як трэба жыць і успрымаць жыцьцё.

Адно, што мяне крыху засмучае — гэта тое, што абставіны жыцьця склаліся так, што мы з бабцяй апынуліся на розных кантынэнтах. Але слава Богу, гэта яе не спыняе — бабця мяне рэгулярна адведвае ў Эўропе. А калі я прыяжджаю у Ню Ёрк, мне прыемна бачыць, што да яе бязконца заходзяць госьці, людзі ўсіх узростаў, якіх яна заўседы прыймае нечым «смачненькім».

А потым, калі ўсе разыйдуцца, мы з бабцяй часта сядзім і гутарым да позьняй ночы — пра рознае: пра маё жыцьцё, пра ейнае, пра радасьці, крыўды, перажываньні — і амаль заўсёды падчас гэтых гутарак, атрымоўваецца так, што мы пачынаем заходзіцца ад сьмеху, нагэтулькі, што ня можам працягваць далей гаварыць. І ў тыя моманты начных сьмехаў за сталом у ейнай кухні, я падсьведама дзякую Богу, што менавіта мяне абдарыў такім добрым, вясёлым, разумным пажыцьцёвым спадарожнікам.

**Данчык**

**СЭРДЭЧНА ВІНШУЕМ НАШЫХ СЯБРОЎ І ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ «БЕЛАРУСА», А ТАКСАМА БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДЗТВА Ў ЗАМЕЖЖЫ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ З КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ ДЫ ЖАДАЕМ ШЧАСЬЛІВАГА, ЗДАРОВАГА Й ПЛЁННАГА НОВАГА 2000 ГОДУ**

**Прэзыдыюм і Сакратарыят Рады Беларускай Народнай Рэспублікі**
**Канадыйскі сэктар Рады БНР**
**Сэктар Рады БНР у штаце Нью Джэрзі**
**Кансысторыя Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы**
**Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня**
**Управа Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва**
**Управа Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага**
**Галоўная Ўправа Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі**
**Галоўная Ўправа Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў у Амэрыцы**
**Згуртаваньне Беларусаў Канады**
**Рэдакцыя *Belarusian Review***
**Управа аддзелу БАЗА ў штаце Нью Джэрзі**
**Управа аддзелу БАЗА ў штаце Нью Ёрк**
**Управа парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку, Н. Дж.**
**Парафіяльная рада й духавенства парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта**

**УПРАВА БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ГРАМАДЗКАГА ЦЭНТРУ «ПОЛАЦАК» У КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*жадае ўсім сваім сябрам*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 2000 ГОДУ**

**ПАРАФІЯЛЬНАЯ РАДА З ПРЫЧТАМ ЖЫРОВІЦКАЕ БОЖАЕ МАЦІ БАПЦ У КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*вітае ўсіх сваіх прыхаджанаў, прыяцеляў і беларусаў на Бацькаўшчыне*
**З РАСТВОМ ХРЫСТОВЫМ**
*і жадае добрага здароўя, шмат шчасьця*
**Ў НОВЫМ 2000 ГОДЗЕ**

**КАМІТЭТ АДДЗЕЛУ БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЖАНОЧАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*жадае ўсім сваім сяброўкам і беларусам на Бацькаўшчыне*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 2000 ГОДУ**

**УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ, АГАЁ**
*шчыра вітае ўсіх сяброў і супрацоўнікаў з*
**КАЛЯДНЫМІ СЬВЯТАМІ**
*ды жадае добрага здароўя й посьпехаў у*
**НОВЫМ 2000 ГОДЗЕ**

**ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ У ВЯЛІКАБРЫТАНІІ**
*жадае ўсім сваім сябрам і прыяцелям на эміграцыіі і на Бацькаўшчыне*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 2000 ГОДУ**

**Ад імя ЗБВБ**
**Лёля Міхалюк, Старшыня**

## *ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДНЫХ І НАВАГОДНІХ СЬВЯТКАВАНЬНЯЎ*

*СВАЯКАМ, СЯБРАМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЗЫЧАЦЬ*

*Абрамаў Лявон*
*Абрамчык Анна й Мікола*
*Азарка Марыя, Янка і Ірэна*
*Азарка Нона, Юрка, Хрыстафор і Марк*
*Акула Кастусь зь сям'ёй*
*Андрусышыны Юля, Павал зь сям'ёй*
*а. Андрэюк Васіль, матушка Вольга, дзеці Эля, Таіса й Даніла з сем'ямі*
*Арцюх Ляля і Язэп*
*Бартуль Вера, Франціш зь сям'ёй*
*Бельмач Лена, Володзя, Янка й Пятро*
*Блецка Ўладзімер*
*Бяленіс Людвіка*
*Верабей Марыя й Кастусь*
*Вініцкія Кацярына і Яраслаў*
*Ганько Марыя*
*Гаўрылюк Антон*
*Праф. Гімпелевіч Зіна*
*Грэбень Мікола зь сям'ёй*
*Гутырчык Літвіна й дочкі Элеанора й Рагнеда з сем'ямі*
*Даніловіч Аляксандра й Браніслаў*
*Дубяга Ала, Віктар, Сьцяпан, Каця й Лана*
*Дубяга Жэня, Алег, Юліян і Тамаш*
*Дубяга Мальвіна, Генадзь, Таіса й Генадзь малодшы*
*Жамойда Сымон, Тэця й Рагнеда*
*Жук-Грышкевіч Раіса*
*Жучка Янка зь сям'ёй*
*Жызьнеўскія Анна й Нікодэм зь сям'ёй*
*Завістовіч Расьціслаў зь сям'ёй*
*Заморская Вера, Таня й Ніна*
*Запруднік Надзя і Янка*
*Запруднік Вера*
*Кавалёвы Клава й Лявон зь сям'ёй*
*Кажан Люба, Віталь, Маргарэта і Юля зь сям'ёй*
*Кажаневіч Хведар з сям'ёй*
*Калоша Кастусь*
*Кананчук Тацьцяна і Андрэй*
*Каранеўскія Гэля, Міхась, Ванда, Ядзя, Караліна, Дануся й Міхась малодшы*
*Кахаsucceedingоўская Яніна*
*Кашавар Ігнат*
*Кіпель Зора й Вітаўт*
*Кіпель Алеся*
*Кіпель Лёрэйн і Юрка з сынамі Алесем, Андрэем і Антонам*
*Кірушын, Мікола*
*Клакоцкі Марат зь сям'ёй*
*Кольба Тамара і Аляксандр*
*Корчык Люба і Юрка*
*Латушкін Мікола*
*Літвіненка Янка*
*Лукашэвіч Оля, Віктар, Коля й Стывэн*
*Макарэвіч Сяргей*
*Маркевіч, Антон*
*Махнач Ванда*
*Машанскі Уладзімір*
*Мельяновіч Васіль*
*Мерляк Ганна й Кастусь*
*Міхалюк Лёля*
*Міцкевіч Алесь з сям'ёй*
*Мурог Сюзана й Лявон*
*Найдзюк Юзэфа з сем'ёй*
*Няпейн Надзя і Аляксандар*
*Норык Кінуся й Лёня*
*Орса-Романа Алла з сям'ёй*
*Пашкевіч Валянтына й Міхал зь сям'ёй*
*Пруская Вера й Мікола зь сям'ёй*
*Ракуць Ліда й Валодзя*
*Русак Галіна й Васіль зь сям'ёй*
*Сапежынскія Алена, Мацей, Мікалай і Юстын*
*Сільвановіч Ніна і Аляксандар*
*Сям'я Стагановічаў*
*Станкевіч Раіса*
*Стрэчань Вольга зь сям'ёй*
*Субота Кацярына і Адоль*
*Сурвілла Івонка, Ганна й Паўлінка зь сем'ямі*
*Стус Валянтына й Багдан*
*Сьнежка Тамара й Мікола*
*Сяргіевіч Марыя й Васіль*
*Трыгубовіч Сяргей*
*Тулейка Вольга*
*Тур Ліля, Віктар і Аляксандар, Мікола*
*Ханенка Ліда, Янка і Янка малодшы*
*Ханяўка Марыя, дачка Рагнеда і ўнук Даніла*
*Чарнэцкі Юрка*
*Шукелайць Антон*
*Шчэцька Алла й Васіль*
*Юрэвіч Лявон зь сям'ёй*
*Яновіч Валентына і Янка*
*Яраховіч Оля, Астап, Андрэй і Даніла*

**ЭКУМЭНІЧНЫ АМЭРЫКАНСКІ СУСЬВЕТЫ ПАТРЫЯРХАТ**

**З нагоды Сьвята Нараджэньня Хрыстова віншуе прыхільнікаў і вернікаў у Беларусі й жадае вытрываласьці на Божай ніве.**

**LUKJAN METAL PRODUCTS, INC.**
P.O. Box 357
Industry Street
Conneaut, OH 44030

*Сям'я Лук'янчыкаў — Натальля, Анатоль і Лена — жадаюць сваім сябрам і знаёмым вясёлых Калядаў і шчасьлівага Новага Году!*

**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКІЯ ВЭТЭРАНЫ У НЬЮ ДЖЭРЗІ, НЬЮ ЁРКУ Й КЛІЎЛЕНДЗЕ**
*жадаюць ўсім сваім сябрам на эміграцыі і беларусам на Бацькаўшчыне*
**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 2000 ГОДУ**

## НОВЫЯ КНІГІ

**McMillin, Arnold B. Belarusian literature in the 1950s and 1960s: release and renewal. Bausteine zur slavischen Philologie und Kulturgeschichte. Reihe A, Slavistische Forschungen; n.F., Bd. 28. 1999**

У Нямеччыне выйшла новая кніга вядомага дасьледчыка беларускай літаратуры з Англіі. Гэта першая частка працы, якая, як бачна з назову, разглядае літаратуру 1950-60х гадоў. У другой частцы аўтар абяцае ахапіць падзеі ў прыгожым пісьменстве ўключна па '90-я гады, а таксама літаратуру беларускага замежжа.

* * *

**Jak Deleon. The White Russians in Instanbul. Remzi Kitabevi Publications. Istanbul, Turkey, 1995.**

З Турцыі прыйшла кніга, якая дакладна прыцягне ўвагу беларускіх дасьледчыкаў. І моцна расчаруе. Бо хоць сваім назовам яна нібыта й мае дачыненьне да нас, на самой справе распавядае пра «белых рускіх» — пра так званых белагвардзейцаў. Зрэшты, ёсьць там і пра Беларусь колькі радкоў (перакладаецца з захаваньнем аўтарскай тэрміналёгіі): «Трэба сказаць, што ёсьць такі рэгіён, які называецца Белай Русьсю. Тут няма сувязі паміж белымі рускімі гэтых мясьцінаў і белымі рускімі, што прыехалі ў Істанбул. Белоруссія, інакш кажучы, Белая Русь, была некалі адной з 16 рэспублік СССР, з насельніцтвам у 8.000.000. Сталіца гэтага рэгіёну, памерам у 200.000 квадратных кілямэтраў, Мінск. Дакладна невядома, адкуль такі назоў — Белая Русь. Магчыма таму, што даволі значную частку году тут усё пакрыта сьнегам, а традыцыйная вопратка таксама белая. Нават болей, насельніцтва тут мае вельмі белую скуру й пераважна бляндыны. Было напісана мноства паэтычных і празаічных радкоў аб прыгажосьці жанчын гэтых месцаў. Будзе цікавым заўважыць, што жанчыны зь Белай Русі, якія прыехалі ў Істанбул, таксама зьяўляюцца прадметам шмат якіх гісторый, і гэта дае свае фарбы да начнога жыцьця гэтага гораду». Канец цытаты.

* * *

**КНІГІ НА ІНТЭРНЭЦЕ**

Аматарам беларускай літаратуры даўно вядома так званая Беларуская Палічка — старонка, якую робіць Андрусь Жвір. Там зьмешчана багата цікавай і вартаснай літаратуры, у тым ліку значная частка выданьняў БІНІМ. Ня так даўно зьявілася яшчэ адна літаратурная старонка — http:// user. exit.de/kum/. На ёй разьмешчаны тэксты ўсіх зборнікаў (а іх сем!) паэты Рыгора Крушыны. Было б добра, каб сын паэта, Ігар Казак, даслаў аўтару старонкі й рукапіс апошняй кнігі — «Рэквіем». А на старонцы тым часам распачалася праца над зборам твораў Алеся Змагара. Ужо зьмешчаны артыкул пра Слуцкае паўстаньне, неўзабаве зьявяцца вершы зборніка «Да згоды», але галоўным чынам чакаецца публікацыя асноўнага твору пісьменьніка — рамана у чатырох квадрах «Случчына ў вагні», даволі рэдкага выданьня. Робіць старонку ў Нямеччыне Сяржук Жандараў.

* * *

У выдавецтве «Рунь» у Вільне запачаткавана новая сэрыя — **«Партрэты віленчукоў»**. Ініцыятарам яе была Зоська Верас. Яна сабрала аўтабіяграфіі Мар'яна Пецюкевіча, Міколы Марцінчыка, зьвесткі пра Янку Пачопку, Пятра Ластаўку, Станіслава Грынкевіча, Язэпа Шнаркевіча, Антона Войціка. Гэту працу падхапіў і вёў да самай сьмерці Лявон Луцкевіч; ён падрыхтаваў 50 нарысаў-партрэтаў пра віленчукоў. Апошні, 51 партрэт, прысьвечаны самому Луцкевічу, напісала ягоная ўдава, Галіна Войцік. Цяпер выдавецтва «Рунь» выдае гэтыя ўспаміны невялікімі сшыткамі — накладам у 100 асобнікаў. Ужо выйшлі кнігі пра Лявона Луцкевіча, Аляксандра Каўша, Зоську Верас, Аляксандра Ўласава. Кошт адной кнігі — $3, усёй сэрыі — $100. Замовы дасылайце ў рэдакцыю газэты «Рунь».

* * *

Выйшла з друку ў БІНІМ й прадаецца новая кніга —дасьледваньне **Лявона Юрэвіча «Беларуская мэмуарыстыка на эміграцыі»**. Кошт кнігі $25. Замовы дасылаць у БІНІМ або на адрэс газэты «Беларус». Таксама яшчэ ёсьць на складзе «Запісы БІНІМ», 23. Дарэчы, у «Запісаў» зьявілася свая старонка на інтэрнэце — www.zapisy. cjb.net.

## ТУРКІ КУПІЛІ МЕНСКІ ГАТЕЛЬ

Турэцкая фірма купіла за паўтара мільёны даляраў гасьцініцу «Сьвіслач», адзін з найстарэйшых будынкаў места. Продаж «Сьвіслачы» — першы крок беларускага ўраду ў разьдзяржаўліваньні гатэльнай гаспадаркі.

## АХВЯРАВАНЬНІ

*Фінансавая справаздача за кастрычнік-лістапад 1999г. Ад Трыгубовіча Сяргея*

| | |
|---|---|
| Е. Кажан | 60 |
| В. Канарчук | 50 |
| А. Кузьміч | 30 |

## БАЦЬКОЎСКІ КАМІТЭТ-2

У канцы кастрычніка пад эгідаю Таварыства Беларускае Мовы ўзьнікла новае грамадзкае ўтварэньне Бацькоўскі Камітэт Вучняў Беларускіх Клясаў, які мае на мэце абараніць правы сваіх дзяцей на беларускамоўную адукацыю.

Такую ж назву й мэты мела арганізацыя, што праіснавала з канца 80-х да сярэдзіны 90-х. Дзеці тых бацькоў, што ўваходзілі ў Бацькоўскі Камітэт «першага складу», ужо выраслі, і таму інтарэсы сёньняшніх школьнікаў ня стала каму абараняць.

Калі нехта з суродзічаў хацеў бы дапамагчы новаствораному Бацькоўскаму Камітэту, кантактуйце па адрасе: ТБМ, Бацькоўскі Камітэт, вул. Румянцава 13, Менск, Беларусь, тэл. 228-68-91 (Ігар) або 283-24-10 (Ілона), e-mail: sauka@cscsc.lingvo.minsk.by.

## РЭПЛІКА

У адным з апошніх нумароў «Нашай Нівы» (22/143) была надрукавана гутарка карэспандэнта газэты А. Прасаловіча з даволі ведамым беларускім пісьменьнікам савецкага часу Янкам Брылём пад назовам «Такая культурнасьць і такая цемра нашых людзей». Яна была прысьвечана гадавіне 17 верасьня — 60 год, калі Саветы акупавалі Заходнюю Беларусь у 1939 годзе. Зь яе чытач можа даведацца, напрыклад, што да ўз'яднаньня заходнікі пра гарэлку й ня чулі: *«Дык а хто ж нас навучыў піць, заходнікаў, як не ўсходнікі? У нас не было такога разуменьня: сто грам, шклянка... Я помню, раз на вясельлі адзін дзядзька заліхвацкі выпіў цэлую шклянку гарэлкі, дык усе стоячы глядзелі, ці разарвецъ яго, ці не. Да таго ж у нашай моладзі была вельмі высокая актыўнасьць у сэнсе мастацкай самадзейнасьці: ставілі спэктаклі і па-беларуску, і па-польску, і нават па-яўрэйску»*. Во дзе была Эўропа, ня тое што ў сярмяжнікаў-усходнікаў! Але нават ня гэта зацікавіла найболей. На пытаньні пра пісьменьнікаў Заходняй Беларусі, што выехалі на эміграцыю, гэты пісьменьнік адказаў: *«З мацнейшых — Сяднёў, Салавей, Арсенева... Яна, Ільляшэвіч і Генію́ш пачалі друкавацца перад вайной, а іншыя дык там выраслі на пісьменьнікаў. Вялікага бляску, на жаль, няма. Яны не маюць такіх празаікаў, як нашыя Мележ, Пташнікаў ці Караткевіч. А паэты... Ну, Арсеньнева. Але ж нашыя Жэня Янішчыц ды Ніна Мацяш лепей пішуць. А ў Ларысы Антонаўны існуе арэол пакутніцы, сядзела столькі і мужна так паводзіла сябе, дык гэта надае асьвятленьне, афарбоўку ейнай творчасьці. Мяне, праўда, хвалюе заўсёды «Магутны Божа», але ж там яшчэ і музыка Равенскага вельмі харошая. Увогуле, ня трэба параўноўваць, хто больша, хто меншы. Для пісьменьніка важна, як той казаў, ці ён крывы, ці ён просты, галоўнае — чысьціня і чалавечнасьць. Паспрабуйце параўнаць Купалу з Коласам ці Славацкага зь Міцкевічам»*, Ну, па-першае, варта зьвярнуць увагу хоць бы на такую акалічнасьць, што ня ўсе згаданыя пісьменьнікі — з Заходняй Беларусі, і што друкавацца на Беларусі пачало нашмат болей з будучых эмігрантаў. А па-другое, насьцярожвае жаданьне й тут падзяліць на «нашых»-«ня нашых», «заходнікаў»-«усходнікаў». У нас, на эміграцыі, гэта ўжо было, на жаль. На Беларусі ўсё як заўсёды — паўтараецца, але са спазьненьнем. Зрэшты, мо ўся справа ў звычайнай зайздрасьці былога ўляўраванага да вольнай творчасьці, бо аддаецца ж належнае «вельмі харошай» музыцы эмігранта М. Равенскага — бо, так бы мовіць, зь іншага творчага цэху?

**Чытач**

## АНОНС

Часапіс «Беларускі Гістарычны Агляд» (Менск) разам з Беларускім Інстытутам Навукі і Мастацтва (Нью Ёрк) заснавалі новую сэрыю **«З гісторыі беларускіх вайсковых фармаваньняў»**. Каардынатар сэрыі рэдактар часапісу, вядомы гісторык Генадзь Сагановіч; у рэдакцыйную раду сэрыі ўваходзяць навукоўцы зь Беларусі, Польшчы й ЗША: В. Астрога, В. Кіпель, А. Латышонак, А. Ліцьвін, Ул. Ляхоўскі, Л. Юрэвіч.

Ужо выдадзены першы томік — кніга Франца Кушаля «Спроба стварэньня беларускага войска». У кнізе рэдкія, часта ўпершыню друкаваныя матар'ялы самого Ф. Кушаля — «Польская палітыка на Беларусі ў часе Польска-Бальшавіцкай вайны 1919-1920», «Спробы арганізацыі беларускага войска пры нямецкай акупацыі Беларусі», «Гэроі Збройнага Змаганьня. Памяці В. Мікулы», «Тры сустрэчы». Памяці Мітр. Пратаярэя айца Хв. Данілюка», а таксама «Біяграфія Ф. Кушаля» Н. Арсеньневай, «Колькі радкоў успамінаў пра ген. Ф. Кушаля» В. Тумаша, цікавыя дадаткі, у тым ліку «Ўніформа вайскоўцаў, сыстэма рангаў і адзнакаў БКА».

Мяркуецца да канца году выдаць яшчэ дзьве кнігі: «Успаміны ўдзельнікаў Слуцкага паўстаньня» і нарыс-успамін Кандыбовіча-Кабыша «Разгром нацдэмаў». Вядуцца перамовы аб перакладах прац аўтараў з Польшчы й Нямеччыны.

Просьба да ўсіх, хто хацеў бы падтрымаць унікальную сэрыю, патрэба якой даўно насьпела, дасылаць ахвяраваньні па адрасу БІНІМу.

## ЛІСТ Ў РЭДАКЦЫЮ

*Hi!*

*My name is Hardi Reiter. My grandpa (German) and grandma (Belarusan — maiden name Maria Zazubovitch) were from Polatsk (East Belarus). They escaped from Belarus in 1918 to Estonia. I and my friends are troubled about situation in Belarus. We deny dictator Lukashenko and all his actions which caused destruction of Belarusan state. Why the all people of Belarus don't stand against the Lukashenko.*

*We are your friends.*

*The first decision to keep your nation is keep your own language, if you loose it, Belarus will die. We kept our language and we stay free. Russification of Belarus is your enemy number 1..*

*Friendly*
*HARDI REITER*

## ПОШУК СВАЯКОЎ

***Унук Вячаслава Селяха-Качанскага***, выдатнага опэрнага й тэатральнага дзеяча, ураджэнца Лагойску, **Сяргей Селях** шукае ягоных сваякоў, блізкіх, знаёмых. Буду ўдзячны за любыя зьвесткі пра жыцьцёвы й творчы шлях знакамітага дзеда на эміграцыі. Прашу пісаць па адрасу:

P.Box 220022 Belarus Minsk, Sharangovicha str.., 31-34
Tel.privat. +375-17-2595146
Fax +375-17-2864422
E-mail: service@pkp805.belpak.minsk.by to Seliah S.V.